**Анатоль АЎРУЦІН**



**Лінія лёсу**

# Анатоль АЎРУЦІН



# Лінія лёсу

***Пераклад***
***Міколы ЯЦКОВА***






***Брылі 2007***

Мне птица по брови черкнула крылом --
Да так, что не понял я -- голубь иль ворон…
И в линию жизни вклинился излом
Несуетным, бренным назло разговорам.

И голос нашёптывал: «Что-то не так...»,
И слабенький лучик прожёг одеяло…
И в стынущих пальцах согнулся пятак,
И скрипка в футляре сама заиграла.

Как больно!.. Как холоден скрежет смычка
В бездушной, панбархатной сути футляра!
Откуда ямщик?.. Почему с облучка
Он валится наземь, ощерившись яро?

Откуда, подобна на древний шелом,
Копёнка взялась на заброшенном поле?
Мне птица по брови черкнула крылом,
Чтоб Родину выдышал сгустками боли...



Мне птушка брыво чыркануля крылом --
Пазнаць не паспеў я -- груган ці то голуб...
І ў лінію лёсу уплёўся залом,
Размовы ўгарнуўшы ў асмягласць і холад.

І голас настойлівы: “Штосьці не так...”,
І коўдру праменьчык працяў, нібы джала...
І ў пальцах азяблых сагнуўся пятак,
І скрыпка ў футляры раптоўна зайграла.

Балюча!.. І скрыгат смычка не пайму,
І пасткай здаецца футлярная гута!..
Фурман той адкуль? Ды і з козлаў чаму
Куляецца долу, гаргочучы люта?

Адкуль жа, нібы старажытны шалом,
Капешка ўзялася на снежаньскім полі?..
Мне птушка брыво чыркануля крылом,
Каб зноў у Айчыны забраў лішку болю.

*5 траўня 2004 г.*

**Ноги стоптать о гранит,
Их о стерню уколоть…
Кто там средь поля стоит --
Путник? Покойник? Господь?**

**Кто это, вереск примяв,
Росную пыль вороша,
Виден вдали среди трав --
Пугало? Дьявол? Душа?**

**Чьи это там голоса --
На зоревом рубеже?
Ухнет… И за полчаса
Неба не видно уже.**

**Только прилипчивый страх
Дальним пылит большаком.
Кто там рыдает впотьмах?
Кто там кричит ни о ком?**



**Ногі стаптаць да высноў
Ды аб іржэўнік скалоць...
Хто сярод поля там зноў --
Блудны? Нябожчык? Гасподзь?**

**Хто верасок той прымяў,
Збочыў адтуль, дзе бальшак,
І заблукаў паміж траў --
Пужала? Д’ябал? Душа?**

**Гэта чые ж галасы --
Зыркам світальных стрыжоў?
Вухне... І -- сырасць расы,
Неба не зорыцца ўжо.**

**Толькі прыліплівы страх
Пыліць гасцінцам старым.
Хто там будуе свой гмах?
Хто там крычыць ні аб чым?**

***4 траўня 2004 г.***

**Россия… Родина… Рябина…**
**Распятье… Реченька… Роса…**
**О как светло и некартинно**
**Парят над лугом голоса!**

**Парят… Схлестнулись в этом пенье,**
**Как в тёплой капельке со лба,**
**Судьба… Смятение… Спасенье…**
**Строка… Спасение… Судьба…**



**Радзіма... Ростані... Рабіна...**
**Распяцце... Рэчанька... Радно...**
**О як жа светла й некарцінна**
**Лунае ранняе ідно!**

**І ў гэтым стрэліся лунанні,**
**Нібыта ў кропельцы з ілба,**
**Сяўба... Спрадвечнасць... Ратаванне...**
**Радок... Пранізлівасць... Сяўба...**

***4 траўня 2004 г.***

**...И дождь хлестал, и небо ясным было,**
**Плыл по стремнине сумрачный пловец.**
**Светясь и пенясь, тень его двоила**
**Волна, от глади спасшись наконец.**
**По ней струилось несколько течений,**
**В них высь с гребущей капала руки.**
**Дрожала даль. И только смутный гений**
**Вдаль уносил тяжёлые шаги.**



**...І дождж сцябаў, і ў небе яснасць млела,**
**Плывец пахмурны плыў па быстрыні.**
**І хваля яго цень дваіла смела,**
**І роўнядзь калыхала камяні.**
**Бруіліся адвечныя цячэнні,**
**І капала з рукі святло вышынь.**
**Дрыжэла даль. І толькі цьмяны геній**
**Цяжкія крокі нёс удалячынь.**

***4 траўня 2004 г.***

**Иных пустынь иные миражи
Иные тайны явят по-иному.
И в мир иной с иной шагнёшь межи,
Иной тропой бредя к иному дому.**

**Иное всё:  общенье с тишиной,
Литые свечи в тусклом абажуре…
Иная тишь… И сам простор иной --
Иные в нём сомнения и бури.**

**Иная гладь зеркального стекла,
Иное там лицо с твоей морщиной,
Иная складка возле губ легла
От сумрачной тоски небеспричинной.**

**Знакомых щёк совсем иная дрожь,
Иного взгляда быстрое скольженье.
Отступишь ты… Но так и не поймёшь, --
Где человек, где только отраженье...**



**Не тых пустынь не тыя міражы,
Не тыя тайны іншае адкрыюць.
І ў іншы свет ты з іншае мяжы
Шагнеш -- і паляціш на іншых крылах.**

**Усё не тое:  шэпты з цішынёй,
Адхланне свечкі ў цьмяным абажуры...
Не тая ціша... І абсяг не той,
І іншыя сумненні ў ім і буры.**

**Не тая роўнядзь люстранога шкла,
І твар не твой з адметнаю маршчынай --
Па-іншаму ля вуснаў пралягла
Ад сцішанай тугі небеспрычыннай.**

**Знаёмых шчок зусім другая медзь,
І іншага пагляду развінанне.
Адступіш ты...  Й не зможаш зразумець --
Дзе чалавек, а дзе адлюстраванне.**

***5 траўня 2004 г.***

**Мы пришли и уйдём…
И от нас ничего не останется.
Только плюсик креста,
на котором трепещет душа.
Да и тот украдёт
Подзаборный какой-нибудь пьяница,
Бросит в свой костерок,
костылями золу вороша.
И вспорхнут над огнём
Одиночества девять грамулечек,
Девять граммов тоски.
Девять граммов озяблости щёк…
Вместе с сизым дымком
поплывут над горбатостью улочек,
Над сверканием льдинок,
что враз ослепляет зрачок.
Прокурлычет душа
над ухабами и косогорами,
Над неубранной рожью,
что спит в ноздреватом снегу,
Над столетней старухой,
В хатёнке сидящей за шторами.
И над спиленным клёном,
воткнувшимся в грязь на бегу…
И какая-то девка,
спиной на сугроб запрокинута,
В непотребстве своём**



**Нас калісьці не стане --
І ўстрывожыць азяблую раніцу
Толькі плюсік крыжа,
на якім анямее душа.
Да і той звалачэ
Беспрытульны які-небудзь п’яніца,
У касцёрчык шпурне,
і над прыскам успыхне імша.
І ўзляцяць над агнём
Недапетага дзевяць грамулечак,
Дзевяць грамаў тугі,
Дзевяць грамаў азябласці шчок...
Разам з шызым дымком
паплывуць над гарбатасцю вулачак,
Над зіхценнем ільдзінак,
ад якога сурочыцца зрок.
Пракурлыча душа
над маўклівымі тымі разорамі,
Дзе счарнелае жыта
пад снегам пяе ні аб чым,
Над старой стогадовай,
Што сядзіць у хаціне за шторамі,
І над клёнам зламаным,
што знясілеў, па тлу бегучы...
І бадзяжная дзеўка
змінае сумётныя вырai,
У распусце сваёй**

**всё ещё учащённо дыша,**
**Приоткроет глаза, встрепенётся:**
**«Послали мне ирода...»**
**Завопит ошалело:**
**«Душа полетела… Душа...»**
**Над забытой страной,**
**Вечно пропитой, вечно страшащейся,**
**Что придёт басурман,**
**И споит, и ограбит опять,**
**Где монахи крадут,**
**Где антихрист**
**стал страстно молящимся,**
**Только душам заблудшим**
**в прокуренном небе летать.**
**А когда возлетят,**
**И поймут -- ничего не изменится**
**Оттого, что ушли, не догрезив,**
**в небесную высь,**
**Станут сверху видней:**
**Позабытая старая мельница**
**И огарки свечей,**
**Что на Пасху**
**от сердца**
**зажглись.**



**не знаходзячы шлях да Крыжа, --**
**Зыркне вокам услед, схамянецца:**
**“Паслалі мне ірада...”**
**Закрычыць ашалела:**
**“Душа паляцела... Душа...”**
**Над забытай краінай**
**Аддвечныя страхі варушацца,**
**Што ізноў басурман**
**Наляціць і патопча ўвесь гай,**
**Дзе манахі ўсе злодзеі,**
**Дзе антыхрыст**
**зрабіўся паслушнікам,**
**Толькі душам аблудным**
**у небе пракураным рай.**
**І калі яны там зразумеюць --**
**нічога не зменіцца,**
**Бо пайшлі, не насыпаўшы ўзнёсласці**
**некалькі жмень, --**
**Зверху ўбачыцца млын,**
**Дзе няспынна адвечнае мелецца,**
**І агаркі тых свечак,**
**Што ад сэрца**
**паліў**
**Вялікдзень.**

***3 траўня 2004 г.***

# Содержание   Змест






*Літаратурна-мастацкае выданне*

**АЎРУЦІН Анатоль Юр’евіч**
“ЛІНІЯ ЛЁСУ”
*Вершы*

**Пераклад Міколы ЯЦКОВА**

Выдавец і паліграфічнае выкананне




*213107  в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
brylibelarus@gmail.com



*Анатолий Юрьевич Аврутин родился в 1948 г. в Минске. Автор многих поэтических сборников. Лауреат Международных Литературных премий. Член-корреспондент Петровской Академии наук и искусств. Награждён медалями им.М.Шолохова и им.М.Джалиля. Первый секретарь Союза писателей Беларуси.*



*Мікалай Адамавіч Яцкоў нарадзіўся ў 1959 г. ў Магілёве. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў і больш за 800 песень на вершы беларускіх і рускіх паэтаў. Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага “Гімна Магілёва”. Член Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў.*